*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 9(43). Верасень

## Імгненні свята

sb.by

# Імгненні свята

Слонім адгуляў. Дзень беларускага пісьменства і друку зрабіў слонімцам прышчэпку беларушчыны. Будзем спадзявацца, што гэтага імпульсу хопіць надоўга. Бо наўрад ці калі яшчэ кіраўніцтва краіны паспрыяе таму, каб слонімскія і гродзенскія чыноўнікі загаварылі па-беларуску. Старшыні Гродзенскага аблвыканкама Уладзіміру Краўцову можна даравацъ яго няўдалае чытанне беларускамоўнай прамовы на адкрыцці свята. Усё ж чалавек прыехаў у Беларусь з Расіі. Але ж можна было і падрыхтавацца — прамова ішла ў жывым эфіры тэлеканала “Беларусь 3”. А вось старшыня Слонімскага райвыканкама на закрыцці свята здзівіў — прамаўляў па-руску і неяк няўпэўнена.

Свята спрычынілася да папулярызацыі сярод слонімцаў гісторыі нашай малой радзімы. Самае галоўнае — усталяванне шматпакутнага помніка Льву Сапегу. Ён ужо назаўжды застанецца ў сэрцы нашага горада і будзе нагадваць кожнаму новаму пакаленню пра мінуўшчыну — трагічную і гераічную, цёмную і светлую.

Добраўпарадкаванне горада — гэта яшчэ адзін плюс ад свята. Толькі хочацца спадзявацца, што і пасля яго працы працягнуцца і будзе даробленa, што не паспелі.

Бясплатны канцэрт — яшчэ адзін падарунак. Арганізатары адзначалі, што яны шукалі новыя падыходы. А ў выніку на сцэне пабачылі выканаўцаў, на якіх моладзь завабіць цяжкавата. Крэатыву відавочна не хапіла.

І шкада, што неяк малавата слонімцаў пабывала на галоўнай сцэне свята. А можна ж было больш даваць слова нашым славутым землякам. Ім было што сказаць, годна прадставіць Слонімшчыну. Але свята рэспубліканскае, жывы эфір, зацверджаны сцэнар…

Мы яшчэ доўга будзем успамінаць пра 1 верасня 2019-га. Невядома, ці пашчасціць Слоніму прыняць хоць раз нейкае рэспубліканскае свята. А вось у Жыровічаў усё наперадзе.




*Тут і далей выкарыстаны фотаздымкі БЕЛТА, sb.by, slonves.by, grodnonews.by*

У гэтым нумары “СК” мы змясцілі здымкі, на якіх зафіксаваныя імгненні свята, якое ўжо стала гісторыяй. Светлыя твары дарослых і дзяцей, чыстае неба над нашай старажытнай слонімскай зямлёй.

●Сяргей Ёрш












*Слонімцы маглі ўласнаручна надрукаваць старонку Бібліі на адноўленым друкарскім станку, якім мог карыстацца славуты асветнік Францыск Скарына.*

# Імгненні свята

*У нашым горадзе прайшла рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя “Слонімскія чытанні 2019”. Сярод узнагароджаных Акадэміяй навук была шматгадовая кіраўніца Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Стаброўскага Ірына Шпыркова. Фота: Слонімскі веснік*




*Міністр інфармацыі Аляксандр Карлюкевіч купляе ў слонімскай кнігарні кнігу мясцовага краязнаўцы*

З АРХІВАЎ

# Сквер у Слоніме, 1959 год



Гэты здымак быў зроблены ў Слоніме 19 траўня 1959 года. Яго аўтар — А. Пераход з БЕЛТА. На фота бачым сквер па Першамайскай вуліцы, а за ім — новыя жылыя дамы. У скверы яшчэ няма помніка-танка. Здымак захоўваецца ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў у Дзяржынску.

●Сяргей Ёрш

# "Цікавая рэч", звязаная са Слонімам і Міхалам Казімірам Агінскім



На сваце ў Слоніме прысутнічаў Валерый Казакоў (на здымку sb.by ён першы злева ў цёмных акулярах), пісьменнік і мецэнат, які жыве ў Маскве. Ён узяў слова і на галоўнай сцэне абвесціў, што дарыць Гродзенскай вобласці асобнік Статута Вялікага княства Літоўскага. І адразу ж перадаў яго Уладзіміру Краўцову. Гэта не першы выпадак, калі Казакоў вяртае ў Беларусь кніжныя скарбы, калісьці вывезеныя на чужыну.

Для нас цікавыя словы Валерыя Казакова, якімі ён анансаваў і наступны падарунак, на гэты раз нашаму гораду. *"Мае хлопцы шукаюць цікавую рэч, якая звязаная са Слонімам, Агінскім і* [яго] *творчасцю"*, — сказаў ён. Можна меркаваць, што гэта кніга, магчыма, выдадзеная ў слонімскай друкарні Міхала Казіміра Агінскага. І знаходзіцца яна ў прыватнай калекцыі.

●Генадзь Гурскі

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

*Працяг, пачатак у № 8, 2019 г.*

Безумоўна, стракатая геаграфія вандровак вызначана іншымі прычынамі, чым сардэчныя схільнасці зялёнадубца. Пасля Оршы і нядоўгага затрымання ў Мінску апошнім беларускім горадам быў Червень (Ігумен у часы Грача-баевіка). Адтуль у 1931-м годзе, атрымаўшы папярэдне згоду на працу “Дальбудаб’яднання”, Ксяневіч выехаў на Далёкі Усход. Невядомыя нам абставіны прымусілі яго амаль адразу, праз тры тыдні, пакінуць Хабараўск, куды спачатку накіроўваўся ўцякач. Прыехаўшая ўслед жонка знайшла яго ў Благавешчанску, дзе яны стала пражылі чатыры гады. Але нешта ці нехта перашкаджаў Ксяневічу спыніцца, і ён працягваў свой рух далей і далей ад радзімы. Наступнае месца, дзе зачапіліся Ксяневічы ў 1935-м, — Срэцянск, будаўніцтва верфі. А літаральна праз тры месяцы старэйшая дачка (у замужжы Савацеева) і зяць паклікалі іх да сябе ў паселак Балей пры золатаздабываючым камбінаце — г. зв “Балейзолата”. Па вуліцы Ведзернікаўская, 20 з’явіліся новыя жыхары, а на камбінаце — новы тэхнік-нарміроўшчык.



*Уладзімір Ксяневіч*

Балей — месца надзвычай цікавае і адначасова няўтульнае для еўрапейца. Чыцінская вобласць займала другое месца ў былым СССР па золатаздабычы, што значна ўплывала на якасны склад насельніцтва. Разам з вялікай колькасцю палітрэпрэсаваных, вязняў Бамлагу, будаўнікоў галоўнага створа Байкала — Амурскай магістралі, багата было рознага кшталту крымінальнікаў і прайдзісветаў, якія сцягнуліся туды ў спадзяванні лёгкай пажывы. І ў палітычным сэнсе месца таксама не спрыяла спакойнаму жыццю. У 1920-я гады пад рэпрэсіі патрапіла большая частка дваран, духавенства, удзельнікаў белага руху і палітычных партый. У часы балейскага жыцця Ксяневічаў улады знішчалі сялянства і тых, хто захаваўся ў папярэдняе дзесяцігоддзе. У 1937-1938-я гады рэпрэсіі сталі масавымі ў адносінах да ўсіх сацыяльных груп насельніцтва.

Напружанасць на Забайкальскай мяжы значна вырасла пасля акупацыі Японіяй Маньчжурыі і стварэння марыянетачнай дзяржавы Маньчжоў-го. Абвінавачанні ў шпіянажы на карысць Японіі і гэтай самай Маньчжоў-го былі звычайнай практыкай дзяржбяспекі. Заляцеўшы ў гэтыя мясціны па волі нядобрага лёсу, Грач быў проста асуджаны стаць агентам выведак гэтых краінаў. Што і адбылося.

# У засені "Зялёнага дуба". Атаман Грач



*Беларускія вайскоўцы. Гродна, 1919 г.*

## На шляху да Беларусі

З заканчэннем Першай сусветнай вайны і развалам царскай арміі сярод маладых вайскоўцаў беларускага паходжання выспяваюць незалежніцкія дзяржаўныя амбіцыі. Патрапіўшы ў беспрэцэдэнтную перабудову свету, галоўнае апірышча яны знайшлі на радзіме. У гэтым сэнсе наш герой абсалютна тыповы прадукт пасляваеннай рэвалюцыйнай эпохі. Ён вяртаўся дамоў з Румынскага фронту. Як вядома, менавіта там лёс і абставіны сабралі шмат беларусаў-вайскоўцаў, і большасць з іх у акопах пачала сваю патрыятычную нацыятворчую дзейнасць на карысць Бацькаўшчыны. Маладыя афіцэры палічылі нацыянальны чыннік галоўным у свой час, дзейным інструментам для самарэалізацыі і дасягнення вяршынь палітыкі. Нацыянальная ідэя перадавалася як вірус, шмат хто на яе захварэў і заразіў вялікую прастору вакол сябе. Самасвядомасць прывяла да жадання палітычнага самавызначэння, а гэта дыктавала неабходнасць удзелу ў вайне за сваё.

Ксяневіч меў шанец зрабіць кар'еру ў Чырвонай Арміі. У Разані ён працаваў у губернскім ваенкамаце, але на пагоны не спакусіўся, застаўся чорнарабочым. Не стаў і белагвардзейцам. З прыходам арміі Дзянікіна ў Екацярынаслаў улетку 1918-га (як раз у гэты час Уладзімір Ксяневіч знайшоў там працу) яго мабілізавалі, і да разгрому белага генерала ён служыў ад'ютантам каменданта горада. У Каменскім, пад Екацярынаславам, жыло шмат палякаў. Пасля паразы белых для спрыяння іх ад'езду на радзіму прыехаў прадстаўнік польскага консульства. Ён забяспечыў уцекачоў пасведчаннямі на права вяртання дамоў. Атрымаў дакументы і Ксяневіч. З польскім цягніком праз Румынію ён вярнуўся ў Беларусь.

У акупаваным палякамі Мінску былы дзянікінец даведаўся аб пачатку фарміравання беларускай нацыянальнай арміі і дзейнасці Беларускай вайсковай камісіі па камплектаванні афіцэрскага рэзерва. *"Я, як беларус, з чыста нацыяналістычных пачуццяў добраахвотна ўступіў у БВК"*, — так ён патлумачыў следчаму ДПУ матывацыю свайго выбару. Але ўжо праз месяц новаспечаны беларускі афіцэр зразумеў, што гэта справа не дае жаданага выніку. Патранаж польскага Галоўнага штаба, на яго думку, гарантаваў безвыніковасць праекта. Працягваючы вандроўку па арміях, на паўтары месяцы Ксяневіч зачапіўся ў 219-й сапёрнай роце польскай арміі. Было б абсалютна зразумела і лагічна, калі б ён, выхадзец з польскага асяродку, там і застаўся. Але, назіраючы рабаўніцтва маёмасці беларускага насельніцтва польскімі вайкоўцамі, Уладзімір Ксяневіч адчуў сябе пакрыўджаным уласнікам. Крыўда яшчэ вырасла ў памерах, калі ён стаў сведкам, як той самы афіцэр, сквапны да дабра беларускага селяніна, пакараў галоднага жаўнера за спробу злавіць курыцу на польскай тэрыторыі. Браць можна толькі ў беларусаў — патлумачыў марадзёр. Пра гэты выпадак, які падштурхнуў пакінуць польскую армію, нягледзячы на тое, што там служыў бацька, Грач распавёў на сваім першым судовым працэсе ў Мінску.[1] Бачна, што ён, шчыры ў сваіх аповедах, да канца не зразумеў, куды і да каго патрапіў, што саўдэпаўская зграя яго ўжо прыгаварыла, а яго нацыяналізм толькі

абцяжарыў лёс.

Не зважаючы на зларадную ў большасці сваей аўдыторыю, ён пранікнена ўспамінаў, як аднойчы маланка адкрыцця прыналежнасці да беларускага народу прасякнула яго юнацкі розум. Чытаючы беларускі каляндар і разглядаючы малюнкі на яго старонках, малады шляхціц адчуў, што гэта яго мова, яго зямля, яго краіна. Натоўп, які ламіўся ў залу суда мінскага дома культуры червеньскім днем 1924-га года паглядзець на польскага шпіена, наўрад ці зразумеў пафас прамовы падсуднага і сэнс дзіцячых адкрыццяў беларускага сусвету ў календары.

*"Калі вучыўся ў Варшаве, мяне прымалі за рускага, у Разані супрацоўнікі лічылі палякам, ні тым, ні другім я не быў",* — падкрэсліў свой беларускі патрыятызм Грач. Ён спадзяваўся, што адданасць беларускай ідэі ўратуе яго. Нацыянальная рыторыка, якую пачалі выкарыстоўваць улады, наяўнасць наверсе палітычнай піраміды савецкай Беларусі нацыянал-камуністаў шмат каго дэзарыентавала. Ігнатоўскі, Чарвякоў мелі ў замежжы рэпутацыю прыстойных людзей. Ім верылі, да іх ішлі.

Грач уласнаручна, не хаваючыся, пісаў: *"Я — нацыяналіст-беларус".* [2] Зялёнадубец, атаман Міхаіл Крук, які стараўся ўсіх былых паплечнікау ў ДПУ выставіць "панскімі паслугачамі", і той заўважыў, што Грач *"не выносіць нічога польскага, марыць аб незалежнай Беларусі".* [3]

Ксяневіч памыліўся ў сваіх разліках на саюзнікаў-аднадумцаў сярод беларускіх бальшавікоў. Яны ўжо самі стаялі ўчарзе на знішчэнне пасля такіх, як ён. Беларусізацыя была цынічнай, часовай, з дазволу Масквы, гульнёй, пасткай для апазіцыйных дзеячоў замежжа.

Цікава, што ўсе пяць гадоў да арышту Грач свядома змагаўся з бальшавізмам. Уладу саветаў на роднай зямлі лічыў выпадковай з'явай, варожай сялянскай сутнасці беларуса. Горача жадаў палепшыць жыццё простых людзей, таму партыя Адамовічаў прывабіла сваёй назвай — "сялянская". *"Мяне заўсёды цягнула да майго цёмнага народу",* — пісаў вязень ДПУ. Паказальна, што выйсце з цемры і заняпаду баявы атаман бачыў, у першую чаргу, не праз вайну. Лічыў, што школа і толькі школа на роднай мове выратуе нацыю. [4]

Менавіта патрыятычная пастава прывяла Ксяневіча спачатку ў гусарскі полк генерала Булак-Балаховіча, а потым — на бронецягнік "Балаховец", які фарміраваўся ў Лунінцы, і нарэшце — у "Зялены дуб".

Не проста зразумець погляды шэфа Галоўнага штаба партызанскіх атрадаў. Ён шмат шукаў — і сэнс жыцця, і кропку апірышча, і стрыжань духоўнасці. У гродзенскай турме, дзе адседзеў пяць месяцаў, глыбока вывучаў Евангелле. У траўні 1923-га прыняў хрышчэнне ад Лукаша Дзекуць-Малея, вядомага беларускага пастыра Евангельскай царквы хрысціян-баптыстаў, які паходзіў, дарэчы, са Слонімскага павета. Будучы духоўны настаўнік быў на шэсць гадоў старэйшы за Уладзіміра, але, хутчэй за ўсё, знаёмства іх пачалося з дзяцінства. Можна меркаваць, што супраца беларускіх патрыетаў наладзілася ў Гродна. Палымяны пастыр, ініцыятар перакладу Біблii на родную мову гуртаваў каля сябе ўсё больш шукальнікаў праўды і паразумення з гэтым складаным светам. У 1923-м Дзекуць-Малей разгарнуў працу ў Бярэсці. Вернікі знайшлі памяшканне для сходаў — падвал пад адной з гасцініц (зараз гэта Савецкая, 13) і заснавалі там культурніцкую арганізацыю, што цікава, пад назваю "Беларуская хатка".[5] Гэта дало магчымасць устанавіць першыя кантакты з жыхарамі горада. Такое спалучэнне ідэйных плыняў зусім невыпадковае: абедзьве прабіваліся ў не вельмі спрыяльных умовах, адчувалі нястачу грамадскай і дзяржаўнай падтрымкі. Толькі горача пераканаины ў неабходнасці нацыянальнага і духоўнага



*Лукаш Дзекуць-Малей*

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

адраджэння свайго народа такі дзеяч, як Дзекуць-Малей, мог паўплываць на істотныя змены ў свядомасці былога баевіка. *“Стары Адамовіч, жартуючы пачаў называць мяне святым,* — успамінаў дэталі недалёкага мінулага падследны. — *Я кінуў паліць, выпіваць”.* Далейшыя духоўныя пошукі, жаданне служыць Богу і людзям прывялі Ксяневіча ў Варшаўскую біблейскую школу, дзе вучыўся, вёў гаспадарку і выкладаў арыфметыку адначасова. Бальшыня слухачоў школы былі малапісьменнымі. Захапленне было сур’ёзным. Нават у лісце да жонкі адчуваецца ўзнёсласць рэлігійнага настрою. Ксяневіч прымаў удзел у шэрагу з’ездаў баптыстаў. Якія абставіны спынілі яго на гэтым шляху духоўнага пошуку — невядома, але, як ён сам засведчыў, у баптызме задавальнення не знайшоў. У анкетах пра веравызнанне пісаў “евангеліст”.[6]



*Меркаванае фота Вячаслава Адамовіча-Дзергача. Archiwum Akt Nowych. Друкуецца ўпершыню*

### Шэф Галоўнага штаба “ЗД”

Арганізацыя беларускіх баевікоў “Зялёны дуб” — задума і вынік палітычнай і арганізацыйнай дзейнасці вядомых дзеячоў беларускага антысавецкага руху — бацькі і сына Адамовічаў, Вячаслава (Вацлава) Антонавіча і Вячаслава (Вячкі — у коле блізкіх) Вячаслававіча, вядомага пад мянушкай Дзяргач.

Адамовіч-малодшы сцвярджаў, што “Зялёны дуб” узнік яшчэ ў 1910-м годзе, як грамадская культурніцкая арганізацыя.[7] Літаратурныя творы атамана Дзергача, надрукаваныя ў тагачасных беларускіх выданнях (“Звон”, “Беларусь”), своеасаблівыя дзённікі баявых рэйдаў, — сведчанне дзейнасці партызанскага аддзелу “ЗД” у 1919-м годзе. Афармленне партыі, на мой погляд, адбылося з прыняццём статута напрыканцы лістапада 1920-га і арганізацыяй Галоўнага штаба з Уладзімірам Ксяневічам на чале.[8] Знаёмства шэфа штаба з кіраўніком “ЗД” адбылося раней, падчас службы ў Мінску ў рэзэрве БВК. Зноў сустрэліся ўжо ў Лунінцы. Пасля разбраення бронецягніка Ксяневіч быў не пры справе. У размове з Дзергачом выказаўся аб сваім жаданні працаваць цалкам на карысць Бацькаўшчыны. Планы маладых людзей супалі. Ад атамана паступіла прапанова ўступіць у Беларускую сялянскую партыю “Зялёны дуб” і прыняць удзел у распрацоўцы праграмы партыі і фарміраванні Галоўнага штаба. Першым партыйным даручэннем Ксяневіча (з гэтага часу Грача) было ўстанаўленне сувязі з Беларускім Палітычным Камітэтам, які ў гэты момант знаходзіўся пры штабе генерала Булак-Балаховіча ў Мазыры, і ўдаваў з сябе ўрад пры “начальніку беларускай дзяржавы”. Але пакуль Грач даехаў да месца, “сялянскі бацька” пачаў адступаць на захад пад ціскам Чырвонай Арміі. З паказанняў Грача вынікае, што няўдача акцыі Булак-Балаховіча паскорыла арганізацыйнае афармленне “Зялёнага дуба”.

Галоўны штаб быў створаны для каардынацыі дзейнасці партызанскіх атрадаў на тэрыторыі савецкай Беларусі

і выканання пасярэдніцкіх функцый у кантактах з саюзнікамі (беларускімі палітычнымі арганізацыямі, “Народным саюзам абароны радзімы і свабоды” пад кіраўніцтвам Б. Савінкава, рознымі плынямі манархістаў). У склад штаба і кіруючых органаў у асноўным уваходзілі прадстаўнікі інтэлігенцыі. Абавязкі першага ад’ютанта выконваў студэнт Мікалай Крывашэін, партыйная мянушка Корч, другога ад’ютанта — былы семінарыст Іван Пешка (Густалес). Ролю ідэолага і тэарэтыка выконваў пісьменнік Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.). Дарэчы, у склад “Зялёнага дуба” на кароткі час уваходзіў і яго сын. Пытаннямі забеспячэння зялёнадубскіх аддзелаў займаўся палкоўнік Уладзімір Жукоўскі, былы балахоўскі афіцэр, а да таго — настаўнік. Было створана яшчэ інфармацыйнае бюро, куды ўвайшлі семінарысты Іван Струкоўскі, Міхась Басевіч, Іван Лямбовіч.[9]

Галоўны штаб на момант фарміравання знаходзіўся ў Лунінцы. Там атрады камплектаваліся, узбройваліся, адтуль накіроўваліся для баявых дзеянняў у розныя куткі савецкай Беларусі. У маёнтак Бор, што каля вёскі Вялікія Чучавічы, у розныя часы на адпачынак і пераўзбройванне прыходзілі атрады палкоўнікаў Ул. Жукоўскага, А. Касінскага, братоў капітанаў Мефодзія і Івана Караткевічаў, капітана Казлоўскага, паручнікаў Юшчанкі, Цярэнцьева, Лебедзева, Красоўскага, Хведашчэні (ён жа Вішнеўскі, Кулеўскі), братоў Баранавіцкіх.

Пра тое, як паўставаў новы цэнтр супрацціву ў Лунінцы пасля паражэння папярэдніх буйных антыбальшавісцкіх акцый, уласнаручна напісаў у 1939 годзе вязень унутранай турмы НКУС г.зв. “амерыканкі” Пешка-Густалес. Палітычны шлях Янкі пачаўся ў Мінскай семінарыі і меў працяг на настаўніцкіх курсах у 1920 годзе ў Слуцку. Ён успамінаў, што Дзяргач праводзіў арганізацыйную працу сярод настаўнікаў, спрабуючы пераканаць іх у неабходнасці добрых дачыненняў с палякамі, якія, спадзяваўся Дзяргач, дапамогуць адрадзіць Беларусь. Падчас адступлення польскай арміі з імі адступілі верныя нацыянальнай ідэі капітан Борык, паручнік Хведашчэня, моладзь з ліку студэнтаў і семінарыстаў — Іван Лямбовіч, Міхась Басевіч, Іван Струкоўскі, Сяргей Бусел. Са старэйшых Густалес успомніў Арсеня Паўлюкевіча і паручніка Яна Мацэлі. Калі пачаўся адыход случакоў, Янка з сябрамі-семінарістамі далучыўся да іх. Моладзь ведала, што на Палессі ўтвараюцца беларускія вайсковыя часткі, якія падтрымлівае польскі ўрад. Гэта ўзняло настрой паўстанцаў. Яны былі гатовыя да працягу барацьбы з Чырвонай Арміяй.

Пешка пазначыў галоўныя вехі свайго шляху да Лунінца: Слуцк — Семежава — Вызна — Леніна — Давыд-Гарадок. Узгадаў пра ўпартую і працяглую баявую сутычку з чырвонымі каля Морачы. Аддзел случакоў дасягаў 200 чалавек, падчас бою паўстанцамі кіравалі афіцэры Маліноўскі і Абрамаў. Чырвоныя выцеснілі іх у Давыд-Гарадок. Тут случакоў і балахоўцаў, што далучыліся да іх, абяззброілі палякі.

У Давыд-Гарадку, як засведчыў на допыце Густалес, з прамовай выступіў Арсень Паўлюкевіч. Ён гаварыў: заваюем Беларусь, вызвалім яе



*Цімох Хведашчэня*

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

ад палякаў і бальшавікоў. Потым Павел Аляксюк таксама казаў, што хаця гэта беларускае войска і абяззброілі, тым не менш барацьбу супраць чырвоных трэба весці і заваёўваць Беларусь розным чынам, а палякі цяпер дапамогуць. Хутка тут з’явіліся афіцэры: Караткевіч, Кахановіч, Абрамаў, Таалат-Кепш, Іўжэнка. Усе часткі накіроўваліся ў Лунінец.

За арганізацыяй і дзейнасцю Галоўнага штаба пільна сачыў старшыня Беларускага Палітычнага Камітэта. Як “успамінаў” Грач, Адамовіч-старэйшы дапамагаў афармляць партыйныя дакументы, рабіць пячаткі. З ім вырашаліся пытанні аб складзе штаба, яго функцыях. Шмат хто з членаў БПК былі зялёнадубцамі і наадварот. Так, атаман Дзяргач быў сябрам БПК, яго ад’ютант Густалес з’яўляўся адначасова сакратаром канцылярыі БПК і Галоўнага штаба. Па сутнасці “ЗД” быў ваенным аддзелам БПК (які ж ўрад без арміі).

Галоўны штаб кантраляваў амаль усе бакі баявой і арганізацыйнай дзейнасці Беларускай сялянскай партыі “Зялёны дуб”. Задачам штаба адпавядаў яго склад з чатырох аддзелаў: аператыўнага, агентурнага, прапагандысцкага і дыпламатычнага. Аператыўнай “працай” кіраваў палявы штаб на чале з палкоўнікам Таалат-Кепшам.

Служба Грача забяспечвала зялёнадубцаў персанальнымі дакументамі, прапускамі, “літарамі” (пасведчаннямі) на праезд, сачыла за друкаваннем бланкаў, інструкцый, зваротаў да сябраў партыі і насельніцтва, вяла перамовы з палітычнымі і ваеннымі дзеячамі Польшчы, Францыі, былой царскай Расіі.




Здабыванне неабходных рэсурсаў для існавання і баявой дзейнасці арганізацыі адымала шмат сіл, але галоўныя намаганні штаба былі скіраваны на каардынацыю ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва партызанскіх атрадаў.

На працягу 1921 года Галоўны штаб размяркоўваў рэсурсы, чарговасць і геаграфію баявых акцый. Звычайна кожны атаман меў свой раён аперыравання. Атаман Дзяргач (ён жа Грозны, Іван Бурылка) аддаваў перавагу Мазыршчыне, М. Жылінскі, Г. Канапацкі — добра вядомай ім па месцы старой службы — Ігуменшчыне. Атаманы Удовін, Жывіца, Мацэлі — роднай Случчыне, браты Караткевічы — адпаведна сваёй малой радзіме — Бабруйскаму павету.

Згодна дадзеных выведкі бальшавіцкага Заходняга фронту ў верасні 1921-га года палкоўнік Грач кіраваў групоўкай партызанскіх аддзелаў вядомых на Міншчыне атаманаў: Махоўчанкі, Лешчанкі, Тышкевіча, Кучынскага, Янушкевіча, Багалевіча, паручнікаў Палянскага, Дземеша, капітана Будкарскага. Агентура інфармавала, што атрады добра ўзброены, маюць выбуховыя рэчы (піраксілін), рыхтуюць “тэрорныя акцыі” у Рэчыцы. Асобна была звернута ўвага на бездакорнасць падрыхтоўкі і надзейнасць складу, у асноўным, афіцэрскага.[10] Але Грач у большасці спецыялізаваўся на разведаперацыях. Хадзіў на савецкі бок адзін ці на чале невялікіх узброеных груп (да дзевяці чалавек). Звычайная экіпіроўка разведчыкаў — рэвальверы, ручныя гранаты. Браць вінтоўкі, як зброю буйных памераў, ён не дазваляў. Галоўнай мэтай такіх вылазак было высвятленне сітуацыі ў раёнах плануемых баявых акцый, збор інфармацыі пра настроі мясцовага люду. Адначасова кіраўнік штаба інспектаваў зялёнадубскія часткі, забяспечваў палявых камандзіраў адмысловымі інструкцыямі кіраўніцтва “ЗД” для партызанскіх атрадаў. Вёска Морач была звычайным і надзейным месцам пераходу.

Нярэдка Грачу прыходзілася выконваць місію перагаворшчыка паміж лідарамі буйных узброеных груповак.

Пасля яўнага пагаршэння адносін з палякамі, асабліва турэмных адсідак атаман Дзяргач шукаў шляхі ўзаемадзеянняў з атаманам Разумовічам-Хмарай (ён меў базу ў Літоўскай Рэспубліцы і адтуль арганізоўваў антыпольскі партызанскі рух). Перамовы ішлі пра сумесныя акцыі супраць польскіх вайсковых частак. Грач павінен быў перадаць партызанам Хмары бутэльку з цыяністым каліем і забраць некалькі адзінак зброі. Аднак арышты партызан не дазволілі планам ажыццявіцца. Змову выкрыла польская палітычная паліцыя. Пачалося бадзянне па турмах Бярэсця, Варшавы, Беластока. У апошнім "прытулку" Ксяневіч сядзеў з арыштаванымі партызанамі атамана Чорта, саюзніка Хмары. Падчас допыту іх жорстка збівалі. Нарэшце зялёнадубца перавялі ў Гарадзенскую турму. У камеры суседнічаў з камуністамі са Слуцка братамі Карасікамі і братамі Бараноўскімі. У Грача, такім чынам, быў выбар паміж Евангеллем і камуністычным маніфестам. Рэпрэсіі, безумоўна, не садзейнічалі паляпшэнню адносін з польскімі ўладамі.

●Ніна Стужынская

*Працяг у наступным нумары*

*[1] Звезда, 1925, 7 чэрвеня.*

*[2] Архіў КДБ. Крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*

*[3] Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа М. Крука.*

*[4] Архіў КДБ. Крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*

*[5] Пекун С. Лука Дзекуть-Малей: Жизнь и служение // Роля асобы ў жыцці і дзейнасці хрысціянскіх цэркваў Беларусі ў XX стагоддзі. Зборнік артыкулаў па выніках цыкла семінараў у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры з удзелам Беларускай Праваслаўнай Царквы, Каталіцкага Касцела і Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў. — Мінск, 2000. С. 123.*

*[6] Архіў КДБ. Крымінальная справа Ул. Ксяневіча.*

*[7] Адамовіч — Дзяргач В. Даклад па Беларускім пытанні ў Польшчы. 27-2-1929 г. Данцыг.*

*[8] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф.456, воп.1, спр.1.*

*[9] Архіў КДБ. Крымінальная справа Аляксандра Бажаранава. Паказанні Івана Пешкі-Густалеса.*

*[10] Дяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі. Ф. 6990. воп.1, спр.2, арк.267.*



*Цэшка Беларускай вайсковай камісіі / budzma.by*

# Капліца ў Альбярціне



Гэты здымак аўтар адшукаў у фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў. У апісанні пазначана, што на ім капліца ў Альбярціне. Дата, калі было зроблена фота, прыблізная — 1945-1954 гады. У архіў яно трапіла з прыватнай калекцыі. Магчыма, чытачы нашага выдання падкажуць, дзе менавіта была гэтая капліца.

●СЁ

# Свята са слязамі на вачах

80 гадоў таму Польшча была падзелена паміж нацысцкай Германіяй і СССР. У выніку гэтага Заходнюю Беларусь далучылі да савецкай Беларусі. Беларускі народ, які два дзесяцігоддзі жыў падзелены на дзве часткі, нарэшце аб’яднаўся. Безумоўна, гэта свята для ўсіх беларусаў. Для палякаў вераснёўскія падзеі 1939-га — трагедыя, паколькі яны часова страцілі дзяржаву.








Тое, што адбылося ў Заходняй Беларусі на пачатку Другой сусветнай вайны і ў наступныя месяцы, гісторыкі яшчэ будуць вывучаць. Бо на сённяшні дзень не маюць доступу да шматлікіх дакументаў, схаваных у архівах спецслужбаў. Гэта трэба зрабіць, каб аднавіць праўдзівую карціну падзей. Наколькі стыхійнымі былі самасуды, якія чырвонагвардзейцы ўчынілі ў розных кутках Заходняй Беларусі, у тым ліку і на Слонімшчыне? Безумоўна, за гады панавання польскай улады ў людзей накапілася крыўда, злосць за здзекі і прыніжэнне, за катаванні ў паліцэйскіх пастарунках. Але ахвярамі асобных азвярэлых актывістаў восенню 1939-га сталі не толькі прадстаўнікі польскай адміністрацыі і арыстакраты, але і звычайныя людзі.

Гэтага нельга забыць. Як не можам забыць і масавых арыштаў, дэпартацый, якія праводзілі савецкія карныя органы ў 1939-1941 гадах. Найперш пацярпелі палякі, але нямала было рэпрэсавана беларусаў, яўрэяў, татараў, рускіх, украінцаў.

Людзі хутка зразумелі, што савецкая ўлада толькі дэкларуе свабоду, але насамрэч не дае яе. Расчараванне ахапіла многіх, імпэт знік нават у былых актывістаў КПЗБ. Але даводзілася прыстасоўвацца да новых умоваў жыцця, каб выжыць…

Вось і атрымліваецца, што для нас аб’яднанне Беларусі восенню 1939 года — гэта свята са слязамі на вачах. Наперадзе беларускі народ чакалі новыя выпрабаванні…

●Сяргей Ёрш

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім



*Працяг, пачатак у № 8, 2019 г.*

Першымі піянерамі сацыялізму ў нашай школе былі, зразумела, яўрэі. Жывучы цесным школьным жыццём, яны прыцягвалі да рэвалюцыі найбольш надзейных і развітых вучняў-хрысціян. Зразумела, што наш польскі гурток вельмі хутка зблізіўся з сацыялістамі-яўрэямі і амаль зліўся з імі. Сацыялістычная прапаганда сярод нас знайшла вельмі плённую глебу. Ад нашага рэвалюцыйна-патрыятычнага гуртка неўзабаве не засталося і следу. Толькі імёны Касцюшкі, Канарскага, Лукасінскага[1] і іншых, цесна звязаныя з гераічнай барацьбой супраць рускага царызму — не страцілі свайго значэння.

Студэнт Кудрэвіч, якога мы яшчэ працягвалі наведваць хутчэй па звычцы, адразу адчуў перамену ў нашым настроі. Ён ясна бачыў, што мы становімся яму чужымі і што нейкая магутная сіла няўхільна цягне нас на іншую, непрымальную для яго, дарогу. Ён прымаў усе меры да таго, каб утрымаць нас ад сацыялізму, выкарыстоўваў усё сваё красамоўства, гаварыў доўга, пераканаўча, прыгожа, але цяпер яго словы ўжо не дзейнічалі на нас так запальваюча, як раней. Цяпер яны былі бледныя і слабыя ў параўнанні з тым натхнёным вогненным языком, які мы знаходзілі ў пракламацыях і лістоўках. Размовы накіроўваліся намі ў іншы бок. Ужо не пра незалежную Польшчу, не пра буржуазна-дэмакратычную рэспубліку, а пра рускі вызваленчы рух, пра братэрства народаў спрачаліся мы. Многія таварышы ўжо паспелі за гэты кароткі прамежак [часу] прачытаць шэраг дробных брашур: Бебеля, Маркса, Кавуцкага, Бакуніна, Крапоткіна, Пляханава, Рудзіна[2] і інш., не гаворачы ўжо пра згаданыя *“Искру”*, *“Революционную Россию”*, і нечаканымі пытаннямі ставілі Кудрэвіча ў тупік.

Здарылася тое, што лагічна павінна было здарыцца. Польскі гурток раскалоўся і сувязь з Кудрэвічам спынілася, хаця мы назаўсёды захавалі ў душы цёплае пачуццё да яго. Затое ў школе ўзмацнілася дзейнасць рэвалюцыйна-сацыялістычная. Стварыўся сам па сабе нелегальны рэвалюцыйны гурток. Ён не быў звязаны пэўным статутам, праграмай ці касай. Гэта была проста цесна злучаная рэвалюцыйным настроем група таварышаў, якія шчыра жадалі прыняць непасрэдны ўдзел у барацьбе рабочага класу з самадзяржаўем. Сярод нас былі і таварышы, якія не зусім вызначыліся, але рэвалюцыйна настроеныя, і сацыял-дэмакраты ўсіх адценняў. Прапаганда вялася пераважна сацыял-дэмакратамі, але да канца лістапада [1905 года] адзін з таварышаў М. Арлінскі, а за ім і я вызначыліся, як “маладыя с.-р.”, а ў пачатку 1906 года з’явіліся сярод нас і эсэры.

Як не аберагала нас пільнае вока начальства вучэльні ад заразы, але зберагчы не магло. Крамола стала пранікаць у сцены вучэльні і заражала вучняў усё больш і больш. Нейкім чынам мы пранюхалі, што ў кнігарнях прадаюцца выданні *“Донской Речи”*, *“Молота”*, *“Колокола”* ды інш., і старэйшыя класы літаральна запаўняліся таннымі папулярнымі брашурамі.

# Рэвалюцыйны Слонім

Кішэнныя грошы ішлі не на ласункі, а на пакупку брашур. Гэта была нейкая крыніца шалёнага ап’янення. Думалі не пра ўрокі, не пра агідную сухую арыфметыку, якую не любіла большасць з нас, а пра брашуру і рэвалюцыю.

Калі не хапала грошай, а кішэні нашы былі пуставатыя, мы закладвалі і прадавалі падручнікі ці абменьвалі іх на брашуры. Чыталі і п’янелі. Я, напрыклад, прадаў усе свае падручнікі па матэматыцы і наўзамен іх накупляў брашур.

Аднойчы, памятаю, я “загнаў” букіністу апошні падручнік па алгебры і купіў у кнігарні брашуры: “Забойства трох міністраў”, “Біяграфію Луізы Мішэль” Русавай і “Парыжскую Камуну” Канколя, якія я ўжо даўно марыў набыць.

Мара здзейснілася: брашуры у мяне. Я паспеў купіць іх падчас вялікай перамены. Калі мы з шумам селі за парты, пачаўся ўрок геаметрыі. Псіхічны стан мой быў падаўлены: я, як звычайна, не ведаў урока і баяўся двойкі ці адзінкі. А тут да бяды адчувалася, што менавіта сёння настаўнік мяне можа выклікаць, бо ўжо даўно не выклікаў да класнай дошкі для рашэння якой-небудзь тэарэмы. Праўда, наш выкладчык Сцяпан Мацвеевіч Лапа ведаў заўсёды загадзя, што ўрока я не ведаю, але тым не менш ён выклікаў мяне часцей, чым звычайна. Ён, здаецца, мяне не далюбліваў і лічыў кепскім вучнем. Яму падабалася мая збянтэжанасць і ён быў не супраць памучыць мяне лішні разок урокам, якога я не ведаў. Ён смяяўся нада мной, атрутна шыпеў і, гледзячы ва ўпор на мяне, браўся за пяро, каб паставіць двойку. Са свайго боку я зусім стаў ігнараваць нелюбімы прадмет і амаль ніколі да яго не рыхтаваўся. Сцяпан Мацвеевіч назваў мяне за гэта крылатым у той час словам “забастоўшчык”.

Сеўшы за парту, я разгарнуў брашуру “Забойства трох міністраў”, паклаў яе на калені і стаў чакаць выкліку на ўрок. А сэрца моцна білася. На душы было тужліва, дакладна наперадзе чакала катаванне. Але на гэты раз яно мяне не закранула. Настаўнік выклікаў іншага вучня, які знаходзіўся ў іншым канцы алфавітнага спісу, далёка ад мяне, а я спакойна пачаў чытаць брашуру, якая распальвала маё ўяўленне. Я і не ўяўляў, якая навальніца вісіць



над маёй галавой!

● А. Левандоўскі



*[1] Шымон Канарскі (1808 — 1839) — польскі палітык-незалежнік, пакараны смерцю рускімі ўладамі; Валерыян Лукасіньскі (1786 — 1868) — польскі афіцэр, актыўны ўдзельнік вызваленчай барацьбы супраць рускага царызму, правёў у турмах 46 гадоў.*

*[2] Дзеячы і ідэолагі міжнароднага сацыял-дэмакратычнага, анархісцкага руху ў XIX — пачатку XX стагоддзя.*

З АРХІВАЎ

# Слонімскія баскетбалісты, 1959 год



Гэты здымак 60-гадовай даўніны знайшоўся ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў. На ім — фінальная сустрэча баскетбольных каманд СШ № 1 і СШ № 5 г. Слоніма. Яна адбылася 19 траўня 1959-га.

Усе нумары
гісторыка-краязнаўчага месячніка
"СЛОНІМСКІ КРАЙ",
якія выйшлі на працягу 2016-2019 гадоў,
можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі
"Камунікат" :
http://kamunikat.org/

"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com